

# Ніва



ГОД I № 4 БЕЛАСТОК, 25 САКАВІКА 1956 г. ЦАНА 60 гр.

АДАМ МІЦКЕВІЧ

## ОДА ДА МАЛАДОСЦІ

*Без душ і сэрцаў, не людзі — шкілеты;*
*О маладосць! Дай мне крылы,*
*Каб я ў рай ляцеў па ласку,*
*Мёртвы свет пакінуў гэты.*
*Там, натхнёнасцю сагрэты,*
*Цуд знайду я, шчасця краску,*
*Там прамень надзеі мілы.*

*Хай стары, жыць неахвочы,*
*Голаў сівы свой схіліўшы над долам,*
*Змрочным бачыць свет наўкола,*
*Бо не глядзяць ужо яго вачы.*

*Запал, маладосць твой усюды*
*Па свету прасторах крыляе,*
*Ты сонцам грамаддзе люду*
*Пранікні з краю да краю.*

*Глянь доле, дзе пануе змрок зацята,*
*Абшар мярзоты і тлі паскуднай:*
*Зямля там!*
*Глянь над мёртваю вадою —*
*Гад, пакрыты шкарлупою,*
*Сам за плыўца, за стырно і за судна,*
*Дробныя гоніць і нішчыць стварэнні.*
*То ўгору ўзнясецца, то — хвалі схавалі;*
*Ні да гада хваля, ані гад да хвалі,*
*І, як пухір, ён лопне на камені.*
*Хто знае, як жыве ён і як жыццё ён згубіць:*
*Ён самалюбец!..*
*О маладосць, нектар жыцця вясною.*
*Салодшы, як з кім іншым яго дзеліш,*
*Сэрца тады яшчэ больш узвяселіш,*
*Калі іх звяжаш ніццю залатою.*

*Разам, сябры маладыя!..*
*У шчасці для ўсіх — нашы мэты святыя:*
*Розумам дужыя, ў свеце і сіле,*
*Разам, сябры маладыя...*
*І той шчаслівы, хто ў бойцы загінуў,*
*Лёгшы ў брацкай магіле,*
*Славу ўздымае краіны;*
*Разам, сябры маладыя!*
*Коўзкую маем, крутую дарогу,*
*Гвалт і стома — рух спыняюць:*
*Змалку над стомай здабудзь перамогу,*
*Гвалт-жа гвалтам заўсёды ламаюць.*

*Той, хто ў калысцы сцяў голаў у Гідры,*
*Знішча ў юнацтве Кентаўры,*
*Зможа ў пекла ахвяру выдраць,*
*Пойдзе да неба па лаўры.*
*Зрокам сігнуўшы над горы, даліны,*
*Ламай, чаго розум не зломіць, упарта.*
*О маладосць! Смелы ўзлёт твой арліны*
*І грому падобны удар твой.*

*Плячо ў плячо! Бясконцымі радамі*
*Зямную глыбу апяражам,*
*Душы і думкі з'еднаем разам,*
*Каб палымнець над шляхамі!..*
*Далей, глыба! З асной струхлелых*
*Цябе штурхнем кірункам новым,*
*Згадаеш ты свой дзень вясновы,*
*Як скінеш струп'е кары спляснелай.*



Умацоўваецца дружба моладзі ўсяго свету ў барацьбе за мір і лепшую будучыню. Усё больш і больш замежная моладзь наладжвае сяброўскія адносіны з нашай моладдзю. На здымку: Артыстка Албанскага Ансамбля Песні і Танца падчас прабывання ў Беластоку, у жніўні месяцы мінулага года.

Фота — Касакоўскі

*Там, у працягах начы, няладу*
*Стыхіі ў шале і непакоры,*
*Гучыць «хай будзе», і тым загадам*
*Свет рэчаў стаў, навек адзіны;*
*Шуміць віхор, цякуць глыбіны,*
*Блакіт высокі аззялі зоры.*

*Ноч чалавецтва ляжыць яшчэ глуха,*
*Жыцця стыхіі яшчэ ў змаганні.*

*Вось агонь любві вяшчуе:*
*Скрозь — чаканне крыйсця духа,*
*Юнасць зачне яго і ўзгадуе,*
*А дружба здзейсніць яго еднанне.*

*Крышацца крыгі лёду,*
*Прымхі знікаюць, як цені.*
*Вітаем зару свабоды,*
*За ёю — сонца збавення!*

Пераклад А. ВЯЛЮГІНА
і С. ДЗЯРГАЯ

ШТОТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА



# З Савецкай БЕЛАРУСІ

## У былым партызанскім краі

РЭПАРТАЖ

Ад раённага цэнтра да калгаса імя Варашылава кіламетраў пяцьдзесят. Эмтээсаўскі „газік" лёгка бяжыць па дарозе, якую шчыльнай сцяной абступае густы лес. Снег апрануў у белае ўбранне разгалістыя ёлкі, тоўстымі пластамі лёг на галлё бяроз.

Неўзабаве лес расступіўся.

— Ну вось і Хорастава, — сказаў шафёр. — Вунь сядзіба варашылаўцаў.

У грозныя гады Вялікай Айчыннай вайны вёска Хорастава была адным з цэнтраў партызанскага руху на Піншчыне. Адсюль народныя мсціўцы нападалі на варожыя гарнізоны, хадзілі ўзрываць чыгунку.

Машына выехала на шырокую вуліцу. Па абодвух баках яе стаяць прыгожыя дамы калгаснікаў. Тутжа сярэдняя школа, бальніца, пошта і ашчадная каса, магазін. Ва ўсе бакі разыходзяцца слупы электра- і радыёліній.

Са старшынёй калгаса генерал-маёрам у запасе, Героем Савецкага Саюза, дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР Васіліем Захаравічам Коржам мы сустрэліся позным вечарам. Ён сядзеў у праўленні і чырвоным алоўкам наносіў на карту-двухвёрстку нейкія лініі.

— Гэта будучая, асушальная сістэма, — растлумачыў Васілій Захаравіч. — Сёлета мы намецілі асвоіць каля тысячы гектараў балота. Таму ўжо цяпер трэба зрабіць неабходныя падлікі.

Васілій Захаравіч Корж прыйшоў у калгас пасля гістарычнай пастановы верасвёўскага Пленума Цэнтральнага Камітэта партыі. Гаспадарка сельгасарцелі развівалася ў той час слаба, грашовыя даходы былі нізкія. Новы старшыня зразумеў, што трэба пачынаць справу з расшырэння ворных зямель. Важныя рэзервы крутога ўздыму грамадскай гаспадаркі сельгасарцелі і паляпшэння матэрыяльнага дабрабыту калгаснікаў таіліся ў асваенні балот.

Ад Хорастава ва ўсе бакі цягнуцца вялікія балотныя масівы і толькі месцамі сустракаюцца нязначныя плошчы сухадолля. Але на карце ўсё больш і больш паяўляецца чырвоных ліній, якія абазначаюць магістральны канал і калектары. За два мінулыя гады ў калгасе было асушана звыш 400 гектараў забалочаных зямель. Большая частка іх ужо асвоена.

...Рана пачынаецца працоўны дзень у калгасе імя Варашылава. У небе яшчэ не паспеюць патухнуць зоркі, а на фермах чуваць ужо бойкія галасы. На дварэ брыгадзіры раздаюць калгаснікам нарады. Праходзіць некаторы час, і ад жывёлагадоўчых памяшканняў доўгім ланцугом цягнуцца ў поле падводы з гноем. Чуваць стук сякер цесляроў, якія ўводзяць жывёлагадоўчы будынак.

Шмат у гэтыя дні спраў і ў старшыні. Наперадзе вясновыя палявыя работы, і ён імкнецца ўсюды пабываць сам: параіцца з брыгадзірам, пагутарыць з калгаснікамі, прасачыць за рамонтам сельскагаспадарчага інвентару, пацікавіцца, як ідзе ачыстка насення.

Нядаўна ў дружную сям'ю варашылаўцаў уліліся хлебаробы з суседняй вёскі Гоцк. Размешчана яна сярод топкіх балот і драмучых лясоў. Вясной і ўвосень туды нават цяжка прайсці чалавеку. На адным са сваіх пасяджэнняў праўленне калгаса вырашыла злучыць цэнтральную сядзібу арцелі з Гоцкам грунтовай дарогай. У гэты дзень старшыня вырашыў пабываць на будаўніцтве дарогі.

Запрэжаны ў сані конь шпарка бяжыць па гладка ўкатаным зімніку. Васілій Захаравіч расказвае аб планах на будучае.

— Мінулай вясной на асушаных і ўзараных тарфяніках мы пасеялі 120 гектараў канапель і атрымалі амаль 2 мільёны рублёў прыбытку. Але гэтага мала. У адпаведнасці з Дырэктывамі XX з'езда КПСС сёлета адводзім пад тэхнічныя культуры 500 гектараў. Даходы нашы павінны за адзін год павялічыцца ў паўтара раза. На асушаных балотах зможам атрымліваць высокія ўкосы траў для грамадскай жывёлы.

Каля Гоцка знойдзены вялікія залежы гліны. У хуткім часе там пачнем будаваць цагельны завод магутнасцю ў паўтара мільёна штук цэглы за сезон. Гатовую прадукцыю будзем вывозіць па вузкакалейцы, якую праклаў ад чыгуначнай станцыі Люшча да Гоцка Луніцкі леспрамгас. Рашылі таксама ўласнымі сіламі пабудаваць вузкакалейку ад Гоцка да цэнтральнай сядзібы, каб мець зручны шлях для вывазкі мінеральных угнаенняў. Мяркуем купіць для ўласных патрэб паравозік.

Зімнік вывеў на шырокую паласу будучай дарогі. Шмат сіл і настойлівасці прыкладаюць тут калгасныя будаўнікі. Услед за дарожнікамі ідуць сувязісты. Яны ставяць слупы для радыё- і электрычных правадоў.

Рост грашовых даходаў дазваляе варашылаўцам весці шырокае будаўніцтва падсобных прадпрыемстваў, купляць новы сельскагаспадарчы інвентар, павышаць сваю культуру.

За два гады ў калгасе пабудаваны 4 кароўнікі, цялятнік, два гумны, сховішча для збожжа, сушылка. Здадзена ў эксплуатацыю электрастанцыя. Цяпер у дамах хлебаробаў гараць лямпачкі Ільіча, электрычнасць прыводзіць у рух млын, лесараму, гонтарэзны станок. Аўтапарк калгаса налічвае 10 аўтамашын, ёсць трактар «ХТЗ-7».

Вялікі план будаўніцтва ў калгаснікаў і на 1956 год. За мінулы год адлічана ў непадзельны фонд звыш 400 тысяч рублёў. Вырашана ў вёсках: Чаланец, Пузічы, Рахавічы, Груздава,, Вейна, Гоцк узвесці каля 40 новых культурна-бытавых і вытворчых будынкаў, механізаваць жывёлагадоўчую ферму.

Калгас нядаўна набыў радыёвузел. Цяпер 400 сем'яў калгаснікаў рэгулярна слухаюць радыёперадачы.

З ліку мясцовай інтэлігенцыі ў Хораставе створан сельскі лекторый. Яго работу ўзначальвае дырэктар мясцовай сярэдняй школы сакратар партыйнай арганізацыі калгаса В. С. Шошын. Настаўнікі, урачы, спецыялісты сельскай гаспадаркі выступаюць перад насельніцтвам з лекцыямі і дакладамі, праводзяць гутаркі аб рашэннях XX з'езда КПСС. Па ініцыятыве сельскіх камуністаў на жывёлагадоўчых фермах створаны чырвоныя куткі, у паляводчых брыгадах выпускаюцца «баявыя лісткі».

...Над вёскай спускаецца сакавіцкі вечар. Машыніст электрастанцыі ўключае рубільнік, і на вуліцы ўспыхнулі яркія электрычныя лямпачкі. Дзесці за аколіцай зайграў гармонік, і бадзёры голас маладой калгасніцы зацягнуў песню. Гэта калгасная моладзь ішла ў свой клуб на вечар.

Л. СКІБЕНКА
Калгас імя Варашылава,
Ленінскі раён.

## Для савецкага чалавека

Калегія Міністэрства мясцовай і паліўнай прамысловасці БССР зацвердзіла план асваення і выпуску новых узораў тавараў на 1956 год. Барысаўская фабрыка імя Молатава ў другім квартале пачне выпускаць новыя піяніна «Беларусь — 2». Мазырская мэблевая фабрыка рыхтуецца да масавага выпуску прыгожых шафаў, буфетаў, тумбачак. У трэцім квартале Гродзенскі велазавод выпусціць каля 10.000 трохколавых дзіцячых веласіпедаў, а Лідскі завод бытавых прыбораў, наладзіць выраб новых электрычных плітак. На Мінскім радыёзаводзе к канцу года будзе асвоен удасканалены радыёпрыёмнік і 5-канальны тэлевізар. Пінскі горпромкамбінат і Кобрынскі райпромкамбінат пачнуць выраб ляць для калгасаў гонтарэзныя станкі.

Усяго сёлета намечана асвоіць звыш 110 новых узораў вырабаў. Вялікую дапамогу ў гэтым аказвае прадпрыемствам Мінскі філіял павільёна лепшых узораў тавараў шырокага ўжытку Усесаюзнай гандлёвай палаты.

## У новай вёсцы — дамы мансарднага тыпу

НЯСВІЖ. — Дванаццаць тыпавых праектаў жылых дамоў распрацавана Белсельпраектам для калгаснікаў сельскагаспадарчай арцелі імя Калініна, якія перасяляюцца з хутароў у новы калгасны пасёлак. Сярод іх найбольшую ўвагу забудоўшчыкаў прыцягвае дом мансарднага тыпу. У яго першым паверсе — 3 пакоі, кухня, у мансардзе — 2 пакоі. Пры параўнальна невялікіх дадатковых затратах жылая плошча такога дома павялічыцца на 50—60 працэнтаў у параўнанні з аднапавярховым. Побач з гэтым дом мансарднага тыпу стварае многа іншых зручнасцей для сялянскай сям'і. Сёлета ў калгасе імя Калініна будзе пабудавана некалькі дзесяткаў такіх дамоў.

Новы пасёлак калгаснікі прапануюць назваць імем XX з'езда партыі.

## Машыны і абсталяванне — школам

Машынна - трактарныя станцыі рэспублікі перадалі школам усенавуча многа абсталявання і машын, прыгодных для вучэбных мэт і наладжвання політэхнізацыі.

Тры МТС Мінскага раёна — Астрашынка - Гарадзецкая, Бальшавіцкая і Мінская перадалі школам 10 трактараў, 6 аўтамашын, 7 камбайнаў, 2 электрарухавікі, 3 такарныя станкі і рад іншых машын. Капыльская руская сярэдняя школа

Школы рэспублікі за апошні час атрымалі ад МТС і саўгасаў 800 трактараў, 300 аўтамашын і тысячы іншых сельскагаспадарчых прылад.

## Слаўны юбілей



У сакавіку мінула 60-ая гадавіна са дня нараджэння выдатнага сучаснага пісьменніка, драматурга і байкапісца Савецкай Беларусі — Кандрата Крапівы.

Кандрат Кандратавіч Крапіва — (Атраховіч) нарадзіўся 22 лютага (ст. стылю) 1896 года ў сялянскай сям'і ў вёсцы Нізок Уздзенскага раёна Мінскай вобласці.

Пасля сканчэння чатырохкласнага гарадскога вучылішча К. Крапіва ў выніку аднагадовай упорнай падрыхтоўкі ў 1913 г. паспяхова здае экзамен пры Мінскай гімназіі і атрымлівае званне народнага настаўніка. Пачынае працу па спецыяльнасці ў адной з сельскіх школ, але ў 1915 годзе яго мабілізуюць і адпраўляюць на фронт, дзе прабыў каля 3 год. У 1918 годзе дэмабілізуецца і зноў пачынае працу ў школе.

У 1920 годзе уступае ў рады Чырвонай Арміі і прымае непасрэдны, актыўны ўдзел у баях з белапольскімі акупантамі, а потым у барацьбе з рознымі кулацкімі бандамі. Тут, у радах Чырвонай Арміі, Кандрат Крапіва і пачаў сваю літаратурную дзейнасць надрукаваўшы ў 1922 годзе ў газеце „Красноармейская правда" свой вершаваны фельетон „Жылі-былі". Пасля дэмабілізацыі, у 1923 годзе, К. Крапіва зноў працуе настаўнікам і адначасова шмат піша. У 1925 годзе выходзяць два зборнікі яго баек і сатырычных вершаў — „Асцё" і "Крапіва".

У 1926 годзе К. Крапіва паступае на літаратурна - лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта БДУ і заканчвае яго ў 1930 г. Пасля сканчэння універсітэта пісьменнік цалкам аддаецца літаратурнай дзейнасці. Пераходзіць да больш буйных форм і жанраў. У 1931 годзе выходзіць яго паэма - жарт „Хвядос — чырвоны нос", а праз год першая частка рамана „Мядзведзічы".

З 1933 г. пісьменнік выключную ўвагу аддае драматургіі. З-пад яго пяра выходзяць адна за другой п'есы: „Канец дружбы", „Партызаны", „Хто смяецца апошнім", „Проба агнём", „З народам", „Пяюць жаваранкі", „Зацікаўленая асоба".

У 1939 годзе К. Крапіва прымае ўдзел у вызваленні Заходняй Беларусі, а потым у барацьбе з белафінамі.

З пачатку вялікай Айчыннай Вайны К. Крапіва зноў уступае ў Чырвоную Армію, а таксама ў Камуністычную Партыю. У Арміі ён актыўна працуе, рэдагуе ілюстраваны часопіс — плакат „Раздавім фашысцкую гадзіну". Пасля, да 1947 г. — ён рэдактар часопіса „Вожык".

Ад 1940 года побач з літаратурнай дзейнасцю Крапіва вядзе вялікую навуковую работу ў галіне мовы. З дня ўтварэння Інстытута Мовазнаўства Акадэміі Навук БССР — узначальвае яго. У 1950 г. выбран правадзейным членам Акадэміі Навук БССР.

За выдатныя заслугі ў галіне беларускай савецкай літаратуры, а таксама за заслугі перад Радзімай — К. Крапіва неаднаразова быў адзначан высокімі ўзнагародамі. У 1940 г. узнагароджан ордэнам Леніна, у гады Айчыннай Вайны — ордэнам Чырвонага Сцяга, у 1949 г. другім ордэнам Леніна. У 1941 г. за камедыю „Хто смяецца апошнім" Крапіва ўдастоен Сталінскай прэміі. У другі раз Сталінскай прэміі ўдастоен у 1951 годзе за п'есу „Пяюць жаваранкі".

Кандрат Крапіва з'яўляецца дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР.

Творчасць К. Крапівы надзвычай багатая і разнастайная: байка, сатырычны і лірычны верш, фельетон, апавяданне, раман, драма, камедыя, крытычны і публіцыстычны артыкул — вось змест яго творчасці.

К. КРАПІВА

## Жаба ў каляіне

Пагода — проста нібы дым,
У вёсцы рух, у вёсцы ўздым, —
Упарта кліча сенажаць,
І ні старым, ні маладым
Тут некалі ляжаць.
Сцяжынкі зранку па расе
На сенажаці праз гароды,
А на лугу — нібы усей
Стракатыя чароды;
Грабель мільганнем, звонам кос
Трымцяць ліловыя прасторы,
І вось, нібы ў зялёным моры,
Плыве бухматы воз.
Далонню ўцёршы потны лоб,
Як паміж рыфаў, паміж коп
Лахматы капітан яго вядзе.
Ён важнасць твару надае
І, каб не стала, загадзе
Сваёй адзінай «конскай сіле»,
Якая й так напружвае ўсё жылле,
Ён пугай пары паддае.
Яно хоць «сілы» троха й шкода,
Ды некалі — стаіць пагода,
Аж смагне, ныючы, асірацелы куст.
А жабе вельмі не пад густ
Вось гэта музыка такая:
І сонца горш цяпер пячэ,
Скарэй і бусел яе ўбача,
І як яна тут ні ўцякае,
Як ні скача, —
У цень нікуды не ўцячэ.
А ўсё двуногі гэты госць
З сваім вялізным возам!
Апанавала жабу злосць,
І падказаў ёй жабін розум:
«Ага, ну-ну!
Ты пажыві яшчэ хвіліну, —
Вось толькі сяду ў каляіну,
Плячом пад кола таркану
І к чорту воз перавярну.
Тагды — капут, і ты мяне не зловіш,
Бо галаву, напэўна, зломіш»
І — скок жабоцька смела
Ды ў каляіну села.
Тут колам — хрась!..
І кроў і гразь...
. . . . . . .
Пад кола, жаба не падлазь!

Ці не такі-ж і кожнай жабы лёс,
Што пнецца на хаду кульнуць савецкі воз?




## САМАХВАЛЫ

Было гэта рана. Сонейка толькі ўзышло і ўсміхнулася, калі я зайшоў ў сельскагаспадарчы кааператыў Дыдулі.

Што там гаварыць — кааператыў нядрэнны. Мае сто свіней, зямлі дастаткова. Сеюць жыта, пшаніцу. Пра бульбу не забываюць.

Пытаю старшыні: „а кніжкі тут чытаюць аб тым, як атрымаць па 260 яец ад куркі, як сілас падрыхтаваць на зіму, як выгадаваць кармавыя буракі аб вазе 1 пуда.

Старшыня паглядзеў на мяне, быццам я быў з вар'яцкага дома, аднак адказаў: Няма часу чытаць, мы і так ведаем, як на зямлі працаваць, другіх яшчэ можам навучыць.

Не спадабаўся мне гэткі адказ і я выйшаў з панадворка. Іду не спяшаючы па выцягнутай, як рэмень дарозе. Нейкі шафёр затрымаў грузавік, закрычаў: гэй дзядзька, сядай, падвязу! Я адмовіўся. Вядома, калі чалавек едзе на машыне ўсё мільгае перад вачыма, а калі ідзе пехатою — нічога не выслізне яго ўвазе, і з людзьмі пагутарыць і тытунцу разам пакурыць.

На чацверты дзень прыйшоў я гэтак у Зубкі. Бачу, штосьці тут не ладзіцца. Членаў сельскагаспадарчага кааператыва трэба прасіць да працы. Як іх не просяць: і па-беларуску і па-польску, ніяк не памагае.

Увосень настаўнік тутэйшай школы пайшоў з вучнямі ў поле — памагаць капаць бульбу, а з членаў ЗМП ніхто не працаваў.

Знайшоў я маладзёжнага важака. Гавару яму да розуму, а ён адказвае: вось збярэм маладзёжную брыгаду, тады ўсіх за пояс заткнем. А вы што дапытваеце, можа з рэдакцыі?

— Не, я так сам ад сябе. Значыць кажаце, што ўсіх заткнеце за пояс. А не лопне ён?

— Чаго там! Наша моладзь як размахнецца, дык лес загудзе.

— Доўга размахваецеся штосьці...

— А чаго спяшацца? Можа кааператыў і не дажыве да восені, тады прападзе наша праца. Мы пачакаем, а потым размахнемся.

Адыйшоў я ад маладзёжнага важака, ды думаю: ой Зубкі, слабыя ў вас кааператыўныя зубы. Малочныя! Хвальбой кааператыва не ўзмоцніш!

**ДЗЯДЗЬКА ЛЕВОНЬ**



— Ці гэты дом прызначаны на разборку?
— Не, на бібліятэку...

*(Шпількі)*

### Харыстам з Гарадка

А ў Гарадку ў святліцы
Усе дзяўчаты чараўніцы
Як у радыё заспявалі
Дык хлопцы іх не пазналі.

### Кладаўшчык і мышы

— Чуеш, суседка, у нашым кааператыве зноў склалі пратакол, што мышы з'елі 10 клг. сала.

— Гэтыя мышы толькі і выратоўваюць нашага кладаўшчыка.

### На шырокую нагу

— Чаму-ж ты, купіў такія велізарныя чаравікі.

— Меншых не было, відаць ГС прывучвае нас жыць на шырокую нагу.

### У САКАВІКУ...

У мароза слёзы льюцца...
Куры ўсё часцей нясуцца...
Па начах каты дзяруцца...
Дзяўчаты весялей смяюцца...

З украінскага гумару

## У сусіда ферма нова...

У сусіда ферма нова,
Буде й друга ось готова,
А у мене з того літа
Шче ж і досі не накрита.

У сусіда, у Діброви,
Всі корови, як корови,
А у мене, як цимбали,
Бо всі ялівками стали.

В нього ситі поросята,
Й птахоферма, як палата,
А я маю курок триста.
Та й ті квокчуць усі чисто...

Всі сусіда поважають,
А мене все тільки лають...
— В чому тут шукать причину? —
Чоловік пита дружину.

— Бо ти збився з пантелику... —
Каже жінка чоловіку, —
Сам застряв, як віз в болоті,
Й заважаєш всім в роботі.

Ти почни робити краще,
Чи до біса иди, ледащо,
А то ждеш, як цар Микола,
Доки виженуть з престола!..

Мікола НАЗАРАУ

### РАЗМОВА

— Маруся, як-жа ты замуж пойдзеш — абеда рыхтаваць не ўмееш?

— Ага...

— Сціраць не ўмееш.

— Ага...

— Танцаваць не ўмееш.

— А, гэта ўжо брэшаце!

## На прычэпе...

Слава хутка разышлася
Па ваколіцы пра нас...
Трактарыстам — я ў калгасе,
А прычэпшчыцай — яна.
І калі — я не заўважыў —
У сэрца мне яна ўвайшла
І, як жартам хлопцы кажуць,
На прычэп мяне ўзяла.
Як арэм мы, так і цягне
Азірнуцца на плугі,
А сказаць — няма адвагі
Пару слоў ёй дарагіх.
Стрэну вечарам дзяўчыну
Каля клуба ці садоў, —
Усміхнецца мне вачыма —
Не знаходжу слова зноў.
А сады — куды ўжо лепей
Упрыгожыла вясна!
Я не знаю, на прычэпе
Хто з нас: я або яна?

Васіль ЛУК'ЯНЧЫК.

### У КАНДЫТАРСКАЙ

— Колькі каштуе гэтае пірожнае з крэмам?

— Два злоты.

— А без крэму?

— Два злоты.

— Тады дайце мне кілаграм крэму, які ніц не каштуе.

Д. Л.

### Патоцкі маўчыць...

На эміграцыі група былых чыноўнікаў абмяркоўвае ўзмацненне і папулярнасць сельскагаспадарчых кааператываў у Польшчы. Патоцкі маўчыць і не ўмешваецца ў размову. Адзін з прысутных пытае: чаму пан Патоцкі нічога не гаворыць. Другі адказвае: мусіць таму, што Патоцкія заўсёды за вялікімі гаспадаркамі.

### З пункту погляду

Ідуць два мужчыны. Міма іх прайшла жанчына.

— Што з вамі, Мікіта Сяргеевіч? Раней вы так стараліся перад жонкай дырэктара, а цяпер нават і дзень добры не сказалі.

— Дык ён-жа развёўся з ёю!

### ЗАГАДКІ

1. Кругом вачэй і рук уецца, а ў рукі не даецца.

2. Не стукне, не грымне, у акно ўвойдзе.

3. Чым больш з яе бярэш, тым большай яна робіцца.

4. У адной яме сто ям з ямай.

5. Два разы нараджаецца, адзін раз памірае.

Адказы прысылайце ў рэдакцыю. Тэрмін — да 1 красавіка.

Тых, якія адкажуць трапна, рэдакцыя ўзнагародзіць кніжкамі.

## ПРЫКАЗКІ і ПРЫМАЎКІ

Той кааператыў багат, у якім лад.

Не той наперадзе, што абагнаў, а той наперадзе, што за сабой цягне.

Рыхтуй летам сані, а зімой — калёсы.

Не марнуй часу дарэмна: вясна пройдзе — не вернеш.

На чужую работу гледзячы, не наясіся.

Гультай і седзячы стамляецца.

Калі хочаш, каб быў ураджай, — агратэхніку паважай.

Адно зерне — пуды прыносіць.

Гультай і лянота — два сябры, адзін без аднаго жыць не могуць.

## РЭЧАНЬКА

(Беларуская народная песня)

(Для жаночага хора) Запіс і апрац. Г. ЦІТОВІЧА



*Ой, рэчанька, рэчанька,*
*Чаму-ж ты не поўная?*
*Люлі, люлі, люлі,*
*Чаму-ж ты не поўная?*

*Чаму-ж ты не поўная,*
*З беражком не роўная?*
*Люлі, люлі, люлі*
*З беражком не роўная?*

*А як-жа мне поўнай быць*
*З беражкамі роўнай плыць?*
*Люлі, люлі, люлі,*
*З беражкамі роўнай плыць?*

*Янка коніка паіў,*
*Маня воду чэрпала.*
*Люлі, люлі, люлі,*
*Маня воду чэрпала.*

*Ой, рэчанька, рэчанька,*
*Чаму-ж ты не поўная?*
*Люлі, люлі, люлі.*
*Чаму-ж ты не поўная?*

## У Беластоку

— Ведаеш, мой Андрэйка, сёння я абыйшча ўсе гаспадарчыя крамы дамовай пасуды, ды нідзе не знайшла ніводнага кілішка. — Вось усе заўзяліся супроць п'яніц.

— А шклянкі ёсць? адазваўся Андрэй

— Шклянак — та ёсць многа — адказала Паўліна.

— Ну й праўда, што заўзяліся... Разумееш-жа ты, бабо, п'яніцам гэта па руцэ — цяпер яны і пачнуць піць шклянкамі...

★ ★ ★

Аднойчы ў халодную зімовую раніцу, я паспяхова падыйшоў да „Орбіса". Каля дзвярэй ланцужком стаялі людзі. Пайшоў я на канец, ды заняў сваё месца. Уперадзе мяне стаялі з торбачкамі нашы вясковыя людзі — ды хухалі ад зімна ў рукі Адзін з іх адазваўся:

— Пятрук, паглядзі, выходзяць людзі, ды чаму яны нічога не выносяць. Падыйдзі да дзвярэй, ды паглядзі!

Пятрук падыйшоў да шкляных дзвярэй — паглядзеў, ды смяючыся падыходзіць да сваіх сяброў і гаворыць: — Хлопцы, гэта каса — тут прадаюць білеты!

Усе разам засмяяліся, ды з васьмёх выйшла з чаргі і паспяхова накіраваліся ў горад, а я гэтак апынуўся ля дзвярэй...

### Паміж прадаўцамі

Паглядзі Антон, я думаў, што ўжо вясна будзе, а тут зноў мароз, ды снегам круціць...

Міхась пакачаў галавою... Відаць пачаўся ў небе „рэманэнт" — Мароз апошнія сняжынкі лічыць.

А ўсё-ж такі вясною пахне.

### На ўроку

Настаўнік: Купец купіў 5 бочак нафты па 330 зл а прадаў па 620 зл за кожную. Колькі купец зарабіў?

Вучань: Тры гады турмы за спекуляцыю.

### У балніцы

Доктар: Чаму вы хворага так трасеце?

Сядзелка: А на лякарстве напісана: перад ужыццём страсянуць.



*—Ваш хлопчык курыць. Якія вы захады прынялі?*
*— Папярэдзіла, каб хату не спаліў.*

„Вожык".